# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 37 (1739) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 10 ВЕРАСНЯ 1989 г. Цана 80 зл.



У. Караткевіч (стаіць першы злева) на сустрэчы ў Інстытуце літаратуры АН БССР. Сядзяць: М. Барсток і П. Мядзёлка. Стаяць: М. Капыловіч, В. Зайцаў, А. Коршунаў, К. Хромчанка, Ю. Пшыркоў.

Публікуецца ўпершыню.

АДАМ МАЛЬДЗІС

## З Караткевічам у Польшчы

(РАЗДЗЕЛ З БУДУЧАЙ КНІГІ)

У сямідзесятыя гады выходзяць новыя кнігі прозы і паэзіі Уладзіміра Караткевіча — „Чазенія“, „Вока тайфуна“, „Хрыстос прызямліўся ў Гародні“, „Мая Іліяда“. Разам з жонкай, Валянцінай Браніславаўнай, і адзін ён многа ездзіць у іншыя рэспублікі — у Арменію, Грузію, Латвію, Эстонію, у любімы Кактэбель на беразе Чорнага мора. Некалькі разоў выбіраецца ў Польшчу і Чэхаславакію.

Першая зарубежная паездка Уладзіміра Караткевіча адбылася ў 1971 годзе. Яго запрасіў у Кракаў выкладчык Ягелонскага універсітэта (цяпер прафесар), чэхіст па спецыяльнасці Здзіслаў Нядзеля. Ураджэнец Беларусі, ён дужа хацеў паглядзець сваю радзіму, і ў 1969 годзе я запрасіў яго ў Мінск, тады ж пазнаёміў з Караткевічам. Нядзеля хацеў адказаць рэваншам і ўзаемна запрасіць мяне ў госці. Але я сказаў:

— Мяне збіраюцца і так паслаць у Польшчу ў навуковую камандзіроўку. То лепей няхай пан Здзіслаў запросіць Валодзю. За граніцай ён яшчэ ніколі не бываў: у афіцыйныя дэлегацыі яго не ўключаюць. А ў Польшчы пабываць хоча, бо цікавіцца яе гісторыяй, у многім для нас агульнай.

— Толькі адначасова з табой, Адасевіч, — папрасіў Валодзя. — Што я там адзін буду рабіць.

Так і рашылі: Нядзеля вышле запрашэнне не мне, а Караткевічу. Аднак час ішоў і ішоў. Мая трохмесячная камандзіроўка па незалежных ад мяне прычынах усё адкладвалася. Нарэшце восенню 1971 года яна стала рэальнасцю. Мы дамовіліся, што Валодзя прыедзе ў Кракаў, калі я ўжо акліматызуюся там пасля Варшавы, што мы абавязкова сустрэнем яго на пероне. 25 лістапада Нядзеля загадзя выбраўся са мною на вакзал і, спасылаючыся на тое, што цягнікі ў Польшчы звычайна спазняюцца, прапанаваў зайсці на „маленькую чорную“. На перон мы выйшлі цюцелька ў цюцельку па раскладу і — здранцвелі: цягнік, чаго ў Польшчы звычайна не бывае, прыбыў з апераджэннем, стаяў пусты. Мы кінуліся туды, дзе свяціліся літары „Выйсце до

(Працяг на стар. 6)




— * —

*Ул. Караткевічу*

Ён быў, ён ёсць, ён вечна будзе,
Як белы свет, дзе нам канаць.
Без мовы быдла мы — не людзі,
І быдлу ў статку існаваць.
Ён выбраў крыж цяжкі і вечны,
Ён выбраў замак найсвяты,
Дзе быць пракорам небяспечна,
Хаця і дома будзеш ты.
У замку плодзяцца бязверцы,
Як пацукі і як клапы.
Тут нельга сум насіць у сэрцы,
І можна быць глухім, сляпым.
У замку цэняцца законы,
Якія воран ім прынёс,
Таму й святыя тут вароны,
Таму і блудам люд аброс.
У замку панствуюць і дзеляць,
Крадуць, купляюць, прадаюць.
Жанчыны горбяцца ў нядзелю,
Мужчыны лаюцца і п'юць.
Якая святасць тут? Смяхоцце.
Святочна хочаш жыць
— маўчы.
За маці-праўду — пакалоцяць
Свае ж браты — паслугачы.
Ён не маўчаў, як мы маўчалі,
Ён крыж свой нёс, як стогн,
цяжкі.
Ён бачыў нас, ён бачыў далеч,
Дзе Белай Русі жыць вякі.
Ён быў, ён ёсць, ён вечна будзе.
Як белы свет, дзе нам канаць.
Нам замак бараніць свой, людзі,
У замку нельга існаваць.

**Віктар Шніп,**
Мінск

— * —

*Ул. Караткевічу*

Бы памяць ладдзя адплывае
ў роспач.
Ужо сёння сівее легенда жыцця.
Як часта не цэнім мы тое,
што побач,
А потым наследдзе хапаем
няўцям.

Ты вольны душой быў, як вецер
над пожняй,
І думкай суцешвацца так і ня
звык.
Ўжо колькі разоў ратаваў нас
апошні
Болю твайго адышоўшага крык.

Нам ветразь застаўся і ў сэрцы
надзея,
Што ў марах чырвоных па
белым плыве...
І нас не застрашаць дубінкі
вандэі,
Бо сэрца сумленнем свядомым
жыве.

**Мікола Касцюкевіч,**
Мінск



Панарама Мінска. Фота Яўгена Казюлі.

# ДАКУМЕНТЫ БНФ

## АБ ПЕРААДОЛЕНЬНІ ВЫНІКАЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ

У выніку Чарнобыльскай катастрофы палова тэрыторыі Беларусі моцна заражаная радыёнуклідамі. Пятая частка ворнай зямлі Рэспублікі непрыдатная для выкарыстаньня. Стала немагчыма ня толькі весьці гаспадарчую дзейнасьць, але і жыць у Брагінскім, Буда-Кашалёўскім, Краснапольскім, Нараўлянскім, Хойніцкім, Чэрыкаўскім ды іншых раёнах Рэспублікі. Заражанасьць у шмат якіх мясьцінах перавышае 15 Кюры на квадратны кіламетр, а месцамі дасягае 200 Кюры і больш. У многіх паселішчах людзі набралі за тры гады да 25 бэр. Расьце колькасьць ракавых захворваньняў, зьніжаецца імунітэт да гэтак званых звычайных хваробаў. Пагроза генафонду нацыі зьяўляецца жахлівым фактам. Вынікі катастрофы, калі браць пад увагу аддаленую перспектыву, можна параўнаць толькі са сталінскім і гітлераўскім генацыдам. Яны пагражаюць існаваньню беларуса ў на Зямлі.

У тым, што сотні тысячаў нашых грамадзян жывуць ва ўмовах, непрыдатных для жыцьця, вінаваты перш за ўсё Урад Беларускай ССР. Своечасова не ацаніўшы сітуацыю, усяляк прыхарошваючы становішча, ён не запатрабаваў ад Ураду СССР сродкаў на поўнае адсяленьне людзей з заражаных раёнаў і паселішчаў. Ён нават адмовіўся ад прапановы Ураду Савецкага Саюза цалкам выселіць Брагінскі раён. Кіраўнікі Рэспублікі зрабілі ўсё, каб дасьведчаныя народныя дэпутаты ня трапілі на нараду з удзелам Старшыні Савета Міністраў СССР, што праводзілася ў час работы Зьезду народных дэпутатаў СССР і была прысвечаная Чарнобыльскай праблеме.

Устаноўчы зьезд Беларускага Народнага Фронту за перабудову „Адраджэньне" расцэньвае дзеяньні Ураду БССР як злачынства супраць сёньняшніх і наступных пакаленьняў народу Беларусі, як жаданьне кіраўніцтва БССР спадабацца кіраўніцтву Савецкага Саюза, як імкненьне па-ранейшаму ствараць фальшывы вобраз сытай і задаволенай Беларусі ў вачах савецкай і сусьветнай грамадскасьці.

Устаноўчы зьезд БНФ „Адраджэньне" патрабаваў ад Ураду БССР і СССР прыняць неадкладныя меры дзеля выратаваньня тых, каго яшчэ можна выратаваць, дзеля аблягчэньня пакутаў тых, хто ўжо хворы.

Улічваючы тое, што Урад БССР і розныя саюзныя ведамствы хаваюць аб'ектыўную інфармацыю аб сітуацыі ў заражаных раёнах, Устаноўчы зьезд Беларускага Народнага Фронту за перабудову „Адраджэньне" патрабуе зьняць сакрэтнасьць зь інфармацыі пра стан радыяцыі і вынікі Чарнобыльскай катастрофы на Беларусі. Павінна быць поўная адкрытасьць і поўная магчымасьць веданьня пра радыяцыйнае становішча, пра заражанасьць прадуктаў, паветра, зямлі, вады, расьлін, жывёл, людзей для кожнага жыхара Рэспублікі. Народ павінен ведаць пра свой лёс, пра будучыню сваіх дзяцей і мець магчымасьць ратавацца.

Трэба стварыць усе ўмовы для паратунку насельніцтва. Дзеля гэтага неабходна патрабаваць сродкі і фондавыя матэрыялы з адказных за трагедыю міністэрстваў, каб забясьпечыць адсяленьне людзей з моцна заражаных раёнаў Магілёўскай і Гомельскай вобласьцяў у адносна чыстыя раёны Віцебскай вобласьці (якая абязьлюдзела ў выніку бюракратычнай гаспадарчай палітыкі) і ў іншыя аддаленыя раёны Беларусі. Пры гэтым насельніцтва з пацярпелых раёнаў не павінна дэпартавацца за межы Рэспублікі. Народ павінен разумець гэта і не паддавацца вынарадаваньню нацыі. Землі, зь якіх часова адселеныя жыхары, павінны быць пад строгім рэспубліканскім кантролем і міжнародным наглядам, мець асаблівы ахоўны юрыдычны статус. Рэжым утрыманьня іх вызначаецца Урадам Беларусі.

Неабходна тэрмінова спыніць пасыланьне моладзі і дзяцей на сельскагаспадарчую і любую іншую працу ў радыяцыйна заражаныя раёны Беларусі.

Уся Беларусь павінна стаць бязьядзернай зонай.

Кіраўнікі БССР, што на працягу 1986—89 гадоў давялі Рэспубліку і народ да такога бядотнага стану і не запабеглі вынікам Чарнобыльскай трагедыі, павінны панесьці адказнасьць перад законам, гісторыяй і людзьмі, перад пакаленьнем.

Устаноўчы зьезд БНФ за перабудову „Адраджэньне" зьвяртаецца да ўсіх народаў сьвету, да ўсіх дабрачынных арганізацыяў з просьбай праявіць салідарнасьць зь беларускім народам, дапамагчы яму медыцынскай тэхнікай, медыкаментамі, грашыма для лячэньня хворых, для будаўніцтва жыльля тым, хто будзе адселены. Зьезд спадзяецца на дапамогу беларусаў, якія жывуць за мяжой, на садзеньне кіраўніка Беларускае Аўтакефальнае Царквы архіепіскапа Мікалая і апостальскага візітатара для беларусаў-каталікаў айца Аляксандра Надсона, і даручае Сойму падрыхтаваць адпаведныя звароты. Зьезд мяркуе, што Урад Беларускай ССР не адмовіцца ад такое дапамогі.

Устаноўчы зьезд БНФ за перабудову „Адраджэньне" выказвае сваё спачуваньне народам Украіны і Расеі, якія таксама пацярпелі ад Чарнобыльскае катастрофы, і выказваецца за супольныя дзеяньні дзеля пераадоленьня яе вынікаў.

Устаноўчы зьезд БНФ „Адраджэньне"

25 чэрвеня 1989 г., г. Вільня

# ПАСЛЯ ПРАГРАМЫ

Цяпер я вельмі рэдка гляджу тэлебачанне. Не прыйшлося мне бачыць праграму аб Гайнаўцы.

На другі дзень я прыйшла да працы і заўважыла, што ўсе вельмі знерваваныя гэтай праграмай.

— Як так можна, — гаварылі, — гаварыць глупствы!

Найбольш запала ўсім у сэрца жанчына, якая на пачатку праграмы сказала, што гайнаўчане ўкралі ў яе галошы, а яны ж яшчэ былі зусім добрыя да хады!

Крытыкавалі таксама выступленне настаўніка з беларускага ліцэя. Я не магла паверыць, што мой настаўнік, які навучаў мяне чатыры гады беларускай мове, трэснуў такое глупства. Як так можна сказаць, што я не ведаю — хто я, бо тут пераходзілі розныя граніцы і мяняліся ўлады! Як можна сказаць, што нас дыскрымінуюць! На Гайнаўшчыне няма дыскрымінацыі. Ніхто не б'е, калі гаворым па-свойму, не ганяе і не кідае каменем, калі ідзеш у царкву. Што тут гаварыць — маем дзве сярэднія школы, дзе навучаецца беларуская мова, ёсць філалогія, хто хоча, той пасылае сваіх дзяцей вучыцца роднай мове ў пачатковай школе.

Я скажу толькі адно, што самі беларусы цураюцца свайго роднага і наракаюць на іншыя нацыі, што яны іх не шануюць!

— Ведаеце, — гаварыў мужчына, — што аб нас падумаюць у цэнтральнай Польшчы, як адразу сказалі, што гайнаўчане ўкралі боты! Той настаўнік таксама не мог сказаць, хто ён, то што там, далей у Польшчы, скажуць — што нейкія людзі, дрэнна ведаючыя гісторыю, вучаць моладзь! Гэта ж смех!

— Ты не гавары так, бо я таксама беларуска і гэтыя справы датычаць таксама мяне!

— Ніхто не супраць, што ты беларуска, але нельга так гаварыць да камеры. Трэба сто разоў падумаць, а пасля сказаць раз — але канкрэтна!

— Я не ведаю, навошта гэтая беларуская мова, калі яна мяшаецца з рускай, — сказала маладая жанчына. — Я сваіх дзяцей не пушчу вучыцца беларускай мове...

Аўрора



Пустое гняздо.
Фота Юркі Трачука

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Янка Брыль

## СУСТРЭЧА

Апавяданне

Абы толькі хатнія селі за стол — снедаць, палуднаваць ці вячэраць — адкуль толькі тая Мурка і возьмецца: ужо і трэцца каля дзеда Сымона, і мяўкае, просіць есці, і толькі ў яго.

Або прыйдзе ён у гумно, па сена карове, а кошка ўжо тут — бяжыць угары, па бэльцы, і мурлыкае, нібы хоча сказаць: „А во дзе я, а ку-ку!...“

— Ах ты, накольніца, — кажа дзед. — Бачыш, куды ты залезла!

Пасля ўжо ён нясе сваё сена па сцежцы, а Мурка бяжыць перад ім, наставіўшы хвост, як стрэльбу.

Аднойчы зімой быў пажар і згарэла большая палавіна вёскі. Згарэла ўсё і ў Сымонавых — і хата, і хлеў, і гумно.

Дзед Сымон быў тады дома адзін. Калі загарэлася суседава хата — зашумела, затрашчала полымя, павярнуў чорнай хмарай дым і загалёкалі людзі на вуліцы, — на старога напаў такі жах, што ён зусім разгубіўся. Як паіў каля студні карову, так і стаў, і стаяў, пакуль не загарэўся іхні хлеў.

Тады дзед убег у хату, зняў з паліцы свае акуляры, будзільнік... Спыніўся і думае:

„Здаецца, усё. Усё?... Ці ўсё?...“

На печы драмала Мурка.

Дзед зняў яе і выбег з хаты.

Больш выхапіць з агню не ўдалося нічога.

Пагарэльцаў паразбіралі па хатах тыя, хто ўцалеў ад пажару. Сымонавых паклікаў да сябе сваяк — амаль на другі канец вёскі.

На ягоным будынку спынілі пажар. Застаўся ў дзядзькі толькі зруб ды столь, замест страхі. Наклалі на столь саломы і пачалі жыць — дзве сям'і ў невялічкай хаце. Цесна, душна, нядобра. Як толькі адліжыць — на саломе растае снег, па сценах цячэ, са столі капае...

Тыдняў са два пасля пажару дзед Сымон быў неяк адзін у сваяковай хаце. Ляжаў на печы, накрыўшыся кожухом,

(Працяг на стар. 10)

## ВЯСЁЛЫ ЗВЯРЫНЕЦ



*Паехалі!*



*Сустрэча.*



*Згода.*

Фота В. Жушмы

З НАРОДНАГА

## ГОСЦІ

А у печы жар, жар,
На прыпечку дзіва:

Наварыў верабей
Пшанічнага піва.

Для гасцей дарагіх
Мурашку зарэзаў,

Кубал мяса насаліў,
Шост каўбас навесіў.

Чалом, чалом, верабей,
Лятуць, лятуць госці,

Ідзі хутчэй сустракаць
Важных ягамосцяў.

Ляціць доўгі жураўель,
За ім чапля, і хрушчэль,

І сама чачотка:
Яна яму цётка,

Сіняя сінічка —
Родная сястрычка.

Прыляцелі совы,
Селі на застоллю;

Прыляцелі каўкі,
Прыселі на лаўкі.

А варона хлябок крoіць,
Муха міскі строіць.

Камар піва носіць,
Піці, есці просіць.

На гасціне ў вераб'я
Весяліліся да дня.

Елі кашу са шврадамі,
Елі верашчаку.

Як пад'елі, напіліся,
Ўсе сказалі:
„Дзякуй!“

## ІДЗІ, ІДЗІ, ДОЖДЖЫКУ

Ідзі, ідзі, дожджыку,
Звару табе боршчыку.

Пастаўлю пад лаўкаю,
Накрыю лапаткаю.

Пастаўлю пад сенцамі,
Накрыю паленцамі.

Пастаўлю пад елкаю,
Накрыю талеркаю.

Талерка не здымецца,
Дожджык не сунімецца.

Дожджыку нам трэба,
Каб было больш хлеба.

## А Ў НАШАГА ЯНКІ

А ў нашага Янкі
Пуховая шапка.
Вохці мне!

Ці не дзед яму даў,
Ці не дзядзька дараваў?
Вохці мне!

Яму татка купіў,
Сто рублёў заплаціў.
Вохці мне!

Міхась Пазнякоў

## ХЛЕБ

*Ён — духмяны,*
*Свежы, смачны.*
*Кожны дзень*
*Яго дамоў*
*Мы нясём*
*З універсама —*
*Хлеб,*
*Аснову ўсіх асноў.*

*Зернем нівы засявалі*
*Хлебаробы ў весні час*
*Сэрцам шчодрым саграваліі,*
*Каб квітнела*
*Свята ў нас.*

*Пахне хлеб*
*Дажджом і ветрам,*
*Працай —*
*За святло святлей.*
*Нібы сонейка над светам,*
*Хлеб духмяны*
*На стале.*

## КАЛЫХАНКА

*Ноч накрыла*
*Коўдрай неба.*
*Спаць, сынок,*
*Табе ўжо трэба*
*Ты стаміўся,*
*Галубочак, —*
*З татам*
*Пасадзіў дубочак,*
*Памагаў*
*У хаце маме,*
*У футбол гуляў*
*З сябрамі.*
*А цяпер*
*Цябе чакае*
*Сон салодкі.*
*Баю-баю.*

# НІЎКА

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ"

**Валошка** — карова.
**Вараняня** — хатняя гаспадыня (жонка).
**Варцтат** — кухня.
**Варыянт** — кухар.
**Вейкі** — вятры (слабыя).
**Верабейка** — злосная Верка.
**Верашчака** — палавіна твару Веркі.
**Вербаваць** — біць вярбінай.
**Віноград** — вылажанае, пабітае збожжа.
**Віноўнік** — любіцель спіртных напіткаў.
**Віхор** — жаночы вакальны калектыў.
**Водгук** — шум мора або вадаспада.
**Волава** — агромная лаўка.
**Волас** — вялікі бык.
**Восень** — вялізныя сені.
**Воспіна** — шырокія плечы.
**Востраў** — гняздо вос у траве.
**Вуглярод** — шахта.
**Выказнік** — адвакат.
**Выкасіць** — выбраць з касы грошы.

„ядань"

## МІНІ-КРЫЖАВАНКА

У радкі 1, 2, 3 і 4 упісаць словы-паліндромы з наступнымі значэннямі: імя ўкраінскага пісьменніка Рыбака; цяпер; памідор; канец, баста. Месца іх упісання трэба адгадаць. Значэнні астатніх слоў: 5) безнадзейнае становішча ў шахматах; 6) падняволены.

*Фёдар Рымашэўскі, Мінск*

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будзе разыграна кніжная ўзнагарода.

Адказы на міні-крыжаванку, змешчаную ў № 31: наган, радар, заказ, кол, год, шалаш.

Кніжную ўзнагароду выйграў Алесь Няжурын з Віцебска.






Мал. Антона Хадароўскага („Сатырыкон")

## АФАРЫЗМЫ

Нямнога было б зла на свеце, калі б нельга было яго чыніць у імя дабра.

✳

Не кожнае беззаконне можна выправіць, але кожны закон можна сапсаваць.

✳

Каб увайсці ў „добрую кампанію", трэба насіць фрак, мундзір або ліўрэю.

✳

Шкада, што значны талент і акуратны чалавек так рэдка ствараюць адзінства.

✳

Бываюць сітуацыі, у якіх быць разважным абазначае быць трусом.

**Марыя фон Эбнер-Эшэнбах**

## БІЛА ЖОНКА МУЖЫКА

Быў я аднойчы сведкам цікавага здарэння, якое адбылося на нашай таўкучцы. Памятаю, быў пачатак зімы. Усё зімняе ішло як з малатка. І ў разгар куплі-продажу пачуліся крык і лаянка жанчыны. Усе хлынулі туды і я таксама. Перада мною адкрылася такая карціна: баба дубасіць торбай п'янага мужчыну, прыгаворваючы: „А гэта табе за адну сотню, а гэта — за другую, а гэта — за трэцюю, а гэта — за чацвёртую, а гэта — за пятую. Гэта ж трэба, людачкі! Збірала, збірала грошы — па капейцы, па рубліку. Назбірала пяцьсот рублёў і хавала ад п'яніцы-мужыка ў валёнках. А ён, пракляты, прадаў гэтыя валёнкі за дзесяць рублёў разам з грашыма. Ой, людачкі, трымайце мяне, бо лопну ад злосці".

А мужык-п'яніца адмахваўся ад жонкі рукою, як ад мух, просячы яе: „Хочаш, паеду на поўнач, зараблю пяць тысяч. Хочаш, на калені стану. Хочаш, пяцьсот раз пацалую. Ты толькі скажы!"

А ў той час жулікі не драмалі, а чысцілі кішэні ў зявак. Не абышлося і без кур'ёзаў. Адной жанчыне выцягнулі грошы з-пад... цыцкі. Яна, галосячы, крычала: „Пабачце, людзі, куды яны залезлі! Я нават свайго мужыка туды не пускаю".

На шум-гам прыйшлі два міліцыянеры. Яны папрасілі ўсіх разысціся, а пацярпеўшых забралі з сабою. Чым скончылася гэтая гісторыя, не ведаю, але смеху і жартаў хапіла на доўгія гады.

**Янка Насута**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### КАЗАЧАНЬКА ЎПІЎСЯ
(народная)

Казачанька ўпіўся,
З дарожанькі збіўся.
Гэй, каню вараному
На грыву схіліўся.*

— Ой, коню, мой коню,
Шаўковая грыва.
Гэй, нясі ж мяне, коню,
Дзе дзяўчына міла.

А мая дзяўчына
Пшанічаньку поле.
Гэй, пшанічаньку поле,
Куколь выбірае.

Пшанічаньку поле,
Куколь выбірае.
Гэй, каню вараному
Пад ногі кідае.

— Даволі, дзяўчына,
Куколь выбіраці.
Гэй, паедзем дадому
Бела ложа слаці.

Паедзем дадому
Бела ложа слаці.

Гэй, да й штоб не ўзнала
Твая родна маці.

— Баюсь я, казача,
Баюсь я худога.
— Гэй, не бойся, дзяўчына,
Не зраблю благога.

Не спала я ночку,
Не спала другую.
Гэй, на трэцюю ночку
Лягла да й заснула.

На трэцюю ночку
Лягла да й заснула.
Гэй, казак насміяўся,
Дзяўчына не чула.

Ах, божа ж, мой божа,
Што я нарабіла.
Гэй, навек радзіноньку
Сваю засмуціла.

Засмуціла бацька,
Засмуціла маці.
Гэй, засмуціла тога,
Хто хацеў узяці.

* Апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.







**ПРЫВАРАНЫ**
— Дзе сеў, там і прыкіпеў.
— А чаму адарвацца не можа?
— Даходлівае месца.

**НАТРАПІЎ**
— Ты смяляка?
— Ніколі ім не быў.
— Зух?
— Што ты!
— Хват?
— Барані божа.
— Рызыкант?
— Ага, музыкант.

**ПА ПРАЕКТУ**
— Выцерабіў дубняк з бярэзнікам.
— Па новаму праекту будзе праводзіць азеляненне.

**ЗДЗЕЙСНІЛАСЯ**
— Каб яго зямля не насіла!
— Бацюхны! Няўжо здзейснілася?
— А ты думала. Ужо трэці год, як лётае на самалётах.

**Браты Бароўкі**
з кнігі „Кубік Рубіка"

**Крылы апускаліся ў яго так часта, што пачаў лётаць.**